Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 38 Пятніца, 24-га Кастрычніка 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Бяз розуму.

Трагэдыяй беларускага народу зьяўляецца адсутнасьць у нашым грамадзянстве простага палітычнага розуму.

Дробная гурткоўшчына не дае магчымасьці знайсьці агульную палітычную мову навет тым беларускім групам, якія часта-густа знаходзяцца на аднэй і тэй самай ідэолёгічнай плашчыні.

Адсутнасьць консолідацыі беларускіх сіл і брак лёгічнай тактыкі, якую дыктуе той ці інш момэнт, заўсёды вядзе да няўдачы нашых нацыянальных прадпрыемстваў.

Мы маглі-б падцьвярдзіць гэта шмат якімі прыкладамі з кароткае гісторыі беларускага палітычна-нацыянальнага руху за апошнія гады.

Але ня трэба капацца ў мінулым, дзеля таго, што ёсьць падобныя прыклады саўсім сьвежыя.

На адным з гэткіх прыкладаў мы спыняем сягоньня ўвагу нашых паважаных чытачоў.

Перад намі сьвежы нумар варшаўскае газэты „Kurjer Poranny", ў якой мы пад загалоўкам „Komitet Białoruskich Spraw" прачыталі даволі даўгую заметку аб яшчэ аднэй, новай палітычнай беларускай(?) арганізацыі, якая *прапануе быць навет цэнтральнаю*, але хіба толькі таму, што мае сваю рэзыдэнцыю ў... Варшаве.

Мы — ня ворагі здаровай партыйнасьці, аднак-жа мы настолькі яшчэ цьвярозы, што можам зразумець адну простую рэч: усякая вузкая партыйнасьць і, гэтак натуральная, свойская на віленскім грунце, гурткоўшчына заўсёды шкодзіла беларускай нацыянальнай справе.

Мы — ня ворагі, а яшчэ крыху старэйшыя за варшаўскіх „цэнтралістаў" староньнікі здаровага нацыянальнага цэнтру.

Аднак ніколі ня можам згадзіцца з тым, каб варшаўскі камітэт беларускіх справаў навет і пасьля зьезду, склíканага п. Фэліцыянам Цяўлоўскім, мог сапраўды стаць гэткім цэнтрам.

Мы проста ў гэта ня можам верыць. Паўстае навет няпэўнасьць у тым, ці камітэт гэты—нацыянальна-беларускі? Можа гэта проста нейкі *апякунскі* камітэт „для беларускіх справаў"?

Моцны нацыянальны цэнтр можа быць створаны толькі самымі нашымі народнымі масамі на зьезьдзе іхніх прадстаўнікоў з месцаў.

Зьезд гэткі хіба, што трудна сабраць у Варшаве. Ён павінен быць недзе бліжэй ды самага народу.

Але рэч ня ў гэтым, а ў тым якраз, што варшаўскі, як ён сябе называе „цэнтральны" камітэт беларускіх справаў ня мае пад сабою ніякага ідэолёгічнага беларускага грунту.

Стоячы на аднэй плашчыні з намі ў пытаньнях аб *асадніцтве*, недасканальнасьці нашае *крэсовае* адміністрацыі, паліцэйскіх гвалтах і надужыцьцях ды падатковых цяжарах датычна беларускага насяленьня, варшаўскі камітэт высоўвае толькі чыста эканамічныя пажаданьні, аб якіх найбольш піша і сам „Kurjer Poranny".

Трудна зразумець такіх беларусаў, (калі гэта яны?) якія ў сваіх палітычных постулятах вольна ці нявольна абміналі-б нашыя культурныя патрэбы, альбо па якомунібудзь загаду маўчалі пра іх.

Кожнаму інтэлігэнтнаму чалавеку зразумела, што *без беларускае культуры ня можа быць беларусу* і што слабасьць культурная зьяўляецца прычынай нашае трагэдыі, нашае агульнае нацыянальнае слабасьці.

Не разумеюць гэтага адны мусі нашыя варшаўскія „цэнтравікі", бо дабрадушна маўчаць у сваёй пастанове навет аб гэткім элемэнтарным праве беларускага насяленьня ў Польшчы, як *права на сваю родную школу*.

Права гэтае не запомнена самою Конституцыяю Польскае Рэспублікі і здавалася-б, што зракацца гэтага права нельга ніводнаму беларусу, як з моральнага боку, таксама і з боку чыста-юрыдычнага, бо ніводзін сапраўдны грамадзянін ніколі лёгка ад сваіх правоў не адступаецца.

Дзіва бярэ ад палітычнай наіўнасьці нашых варшаўскіх „цэнтравікоў", калі даведваемся з іхніх пастановаў аб магчымасьці аздаровіць усе нашыя *крэсовыя* ненармальнасьці аднымі толькі эканамічнымі рэформамі і, даўшы, па іх думцы, большы кавалак чорнага хлеба беларускаму селяніну, супакоіць гэтым і яго духоўны голад.

Ці паны палітыкі з варшаўскага Камітэту думаюць, што і надалей па беларускіх вёсках могуць пуставаць урадовыя польскія школы, ў якія насяленьне пасылаць сваіх дзяцей ня хоча, жадаючы свае роднае школы?

Ці яны ведаюць тое, што Польская Конституцыя абавязвае грамадзян забясьпечыць сваім дзецям, прынамсі, пачатковую адукацыю, якая ў Польшчы зьяўляецца абавязковаю?

Ці ведаюць яны, што найкарацейшы шлях да гэтай адукацыі ёсьць матчына мова?

Яны можа й нічога ня ведаюць.

Ня ведаюць навет і таго, што правілам дужых гэтага сьвету ад даўна зьяўляецца стары кліч панаваньня над слабейшымі, выражаны коратка:

„Divide et impera", што азначае пабеларуску: „Разьдзяляй і пануй!"

І зусім ясна, што кожны, як сам захоча, патрапіць над намі панаваць, калі мы самі будзем шчапацца на часткі, ня гледзячы на тое, што мы будзем выстаўляцца на сьвет з рознымі „цэнтральнымі" шыльдамі.

Для раз занятай намі пазыцыі саўсім няважна, зьявіцца ці не — яшчэ дзе-нібудзь, які-колечы „цэнтральны" камітэт беларускіх справаў.

Бо мы добра ведаем, што толькі на цадобныя рэчы ў нашым грамадзянстве заўсёды хапала розуму, заўсёды нам хапала міністраў ды гэнэралаў, а пуста было ў нашым беларускім шыху, ад чаго цяжкі воз нацыянальнай справы даўно заграз на месцы.

І ён датуль будзе непарушным, пакуль хапацца скрануць яго будуць людзі бяз ніякага палітычнага розуму.

## Палітычны агляд.

Усе спробы нямецкага канцлера Маркса дагаварыцца з соц.-дэмакратамі і нацыяналістымі датычна пашырэньня цяперашняга кабінэту ўлева і ўправа, не распускаючы цяперашняга Рэйхстагу, не далі ніякіх рэзультататаў. А аб уваходзе ў кабінэт адначасна соц.-дэмакратаў і нацыяналістых не магло быць і гутаркі. Соцыялістыя навет ня зусім былі здаволены цяперашнім кабінэтам Маркса, ў якім косткай у горле быў для іх ваенны міністар Гэсьлер ды міністар юстыцыі Эмінгэрн, сябра баварскай нацыянальнай партыі. Але, не ўваходзячы ў склад урадовай большасьці, соц.-дэмакраты занялі ў адносінах да кабінэту Маркса прыхільны нэйтралітэт, які мог працягнуцца толькі датуль, пакуль ён не пайдзе далей управа. Аднак кабінэт ня мог далей істнаваць на ранейшых прынцыпах, дзеля злажыўшыхся міжнародных абставін. І каб выйсьці з гэтага палажэньня, канцлер у канцы канцоў рашыўся пашырыць кабінэт толькі ўправа, прыцягваючы нацыяналістых. Але проці гэтай думкі канцлера выступілі дэмакраты. Гэта ёсьць умяркованая мяшчансная партыя, ямая ня мае нічога супольнага з соцыялізмам і якая ў панядзелак прыняла рэзалюцыю, ў каторай гаворыцца, што яна лічыць утварэньне правага кабінэту непажаданым дзеля новага міжнароднага палажэньня Нямеччыны. І гэтая пазыцыя дэмакратаў, увайшоўшых у цяперашні коаліцыйны ўрад, рашыла лёс кабінэту Маркса і Рэйхстагу. Пасьля гэтага канцлеру нічога больш не заставалася, як распусьціць Рэйхстаг ды назначыць новыя выбары. І ён гэтак зрабіў, ня гледзячы на ўсё сваё жаданьне неяк дагаварыцца з партыямі, не распускаючы Рэйхстагу. Прэзыдэнт рэспублікі Эбэрт згадзіўся з прапазыцыяй канцлера Маркса і падпісаў загад аб роспуску Рэйхстагу і новых выбарах, назначаных на 25 лістапада.

Кабінэт Маркса ўтварыўся 1 сьнежня леташняга году пасьля кабінэту Штрэзэмана, ў які ўваходзілі соц.-дэмакраты. Галоўнай спадчынай ранейшага кабінэту быў

## АБВЕСТКА

**Настаўнікам пачатковых школаў.**

Школьная Камісія Часовай Беларускай Рады гэтым абвяшчае, што, ў зьвязку з адчыненьнем беларускіх школаў, усім зарэестрованым Камісіяй настаўнікам прапануецца: 1) прыслаць свае адукацыйныя дакумэнты і жыцьцярысы; 2) даныя аб тым, дзе магчыма адчыніць школы (ці ёсьць адпаведныя будынкі); 3) сабраць подпісы ня менш як 40 бацькоў, якія аддадуць сваіх дзяцей у беларускія школы; Подпісы павінны быць зацьверджаны солтысам і войтам; 5) якая школа зьяўляецца пажаданаю — чыста-беларуская, ці двухмоўная.

У выпадку, якіх-нібудзь тэхнічных труднасьцяў, ці перашкодаў з боку мясцовае ўлады, незабаўна паведамляць Школьную Камісію па адрэсе: Wilno, ul. Niemiecka, Hotel „Palace“, Białoruska Komisja Szkolna.

Вакансіі будуць замяшчацца ў парадку паступленьня заяваў.

**Школьная Камісія Час. Бел. Рады.**

---

Штрэзэман, лідэр нацыянальнай партыі, які ў новым кабінэце заняў пост міністра заграгічных справаў. Дзеля гэтага, новы кабінэт усе называлі кабінэтам Маркса—Штрэзэмана, дзеля тэй ролі, якую ў ім граў Штрэзэман. Пасьля апошніх выбараў у Рэйхстаг 5 мая г. г. кабінэт Маркса-Штрэзэмана захаваўся ў сваім ранейшым складзе, цягнучы далей сваё няўдачнае істнаваньне да апошніх дзён. Гэта быў адзін з найбольш слабых нямецкіх кабінэтаў, дзеля таго, што меў толькі ўмоўную ўрадовую большасьць, дзякуючы прыхільнаму нэйтралітэту соц.-дэмакратаў.

Якая-ж была прычына слабасьці кабінэту Маркса-Штрэзэмана і дзеля чаго ён ня мог яе перамагчы?

Уся хвароба кабінэту Маркса была ў цяперашнім складзе Рэйхстагу, які ня мог утварыць моцнай урадовай большасьці. Выбраны 5 мая г. г. пад уражаньнем окупацыі Рурскай тэрыторыі, калі яшчэ ня былі ведамы рэзультаты францускіх выбараў, якія адбыліся ў тыдзень пазьней (11 мая), нямецкі Рэйхстаг адтрымаў дужыя крайнія групы нацыяналістых і камуністых пры слабым цэнтры і слабой соц.-дэмакрытыі. У мінулым Рэйхстагу партыйны склад быў гэткі: соц.-дэмакраты 99 мандатаў (у ранейшым Рэйхстагу, выбраным у 1920 г., яны мелі 178 мандатаў), цэнтр, партыя канцлера Маркса—62 (раней 70), нямецкая народная партыя Штрэзэмана—45 (раней 66), нямецкая нацыяналістычная партыя —99 (раней 60), дэмакратычная партыя, выклікаўшая цяперашні парлямэнцкі крызыс,—24 (раней 36), камуністычная партыя—61 (раней 14), партыя крайніх нацыяналістых (нямецкія фашысты)—32 (ў ранейшым Рэйхстагу толькі 3). З іншых дробных партыяў, як баварскі сялянскі саюз (10 мандатаў), вясковы саюз (9), гановэрская партыя (5), нямецка-соцыяльная (4), трэба ад'значыць яшчэ баварскую народлую партыю, якая мела 15 дэпутатаў і свайго прадстаўніка ў кабінэце Маркса, міністра юстыцыі Эмінгэра, выклікаўшага сільнае нездаволеньне з боку соц.-дэмакратаў. Усяго ў ранейшым Рэйхстагу было 465 дэпутатаў.

Адсюль ясна, што ў часе апошніх выбараў узмацаваліся нацыяналістыя, фашыстыя і камуністыя; першыя дзьве партыі на рахунак народнай партыі, дэмакратаў і цэнтру, а камуністыя на рахунак соц.-дэмакратаў. Урад Маркса апіраўся на коаліцыю цэнтру (62), нямецкай народнай партыі (45), дэмакратаў (24) і баварскай народнай партыі (15), што дае разам 146 галасоў. А соц.-дэмакраты (99) уваходзілі да ўрадовай коаліцыі толькі ўмоўна, дзеля таго, што яны ня мелі сваіх прадстаўнікоў у кабінэце. Гэткім чынам, пры падтрыманьні соц.-дэмакратаў урад карыстаўся ў рэйхстагу толькі 245 галасамі, ня лічачы дробных групаў. А дзеля таго, што палова ўсіх галасоў Рэйхстагу 232, дык урад меў большасьць толькі 13 галасоў. Ведама, гэтакі ўрад ня мог пачувацца моцным і пэўным, калі яшчэ ўзяць пад увагу крайнюю нязгоднасьць нямецкіх нацыяналістых з фашыстымі і камуністымі, заўсёды йшоўшымі разам побач. І адзіны выхад з гэтага палажэньня быў роспуск нямецкага Рэйхстагу, які ня мог вытварыць досіць моцнай урадовай большасьці. *N.*

---

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

27 гэтага кастрычніка адбудзецца паседжаньне сэнацкае рэгуляміновае камісіі. На парадку дня: непаразуменьне з Соймам. Дапушчаюць, што дакладчыкам па справе будзе сам Маршалак Сэнату п. Тромпчынскі.

Міністэрства Працы прыступіла да устанаўленьня конспэкту агульнадзяржаўнага закону аб спэцыяльным эмэрытальным страхаваньні інтэлігэнтных працаўнікоў.

Галоўны Ліквідацыйны Урад правёў рэестрацыю ўсіх маемасьцяў, правоў і інтарэсаў на абшары быўшага расейскага забору асобаў, няпрысутных, загінуўшых або памёршых (Monitor Polski за 18 гэт. м. № 240).

7-га і 8-га лістапада бяг. году адбудзецца гадавы зьезд прэзэсаў Акружных Судоў у Варшаве.

На апошнім паседжаньні Рады Міністраў назначаны гэнэральным дэлегатам па **крэсовых** справах пры Мін. Унутр. Спр. быўшы дэлегат ўраду ў Вільні п. В. Роман.

22-га кастрычніка ўзнавілася сэсія Сойму. Прэм'ер-міністар і міністар скарбу п. Ул. Грабскі сказаў прамову, ў якой паміж іншым, спыніўшыся на ўнутраных справах ды нападах бандытаў на **крэсах**, заявіў, што мясцовае насяленьне павінна зразумець ня толькі тое, што польскія ўлады вымагаюць ад яго паслухнянасьці, але й стараюцца аб яго дабры. Праца над устанаўленьнем крэсовае палітыкі, пачатая прыняцьцем языковых законаў, павінна быць працягнена далей, дзеля таго, што складае адзін з фундамэнтаў будучага быту Польскае Дзяржавы.

1-га кастрычніка а 9 гадз. ўвечары вураднік консулярнага аддзелу пасольства Польскае Рэспублікі ў Маскве Стан. Патроўскі пацярпеў напад на вуліцы ад незнаёмага яму мужчыны, які ўдарыў яго ў грудзі. Патроўскі адбіў напад, пры чым нападчык ратаваўся ўцяканьнем. Гэта ўжо пятая асоба, пацярпеўшая ў працягу двух дзён са складу сяброў і вураднікаў польскіх прадстаўніцтваў у С. С. Р. Р. Міністэрства заграгічных справаў выслала па гэтай справе ноту да савецкага пасольства ў Варшаве з протэстам проці сыстэматычных гвалтаў, робленых на асобах прадстаўніцтваў польскіх і з трэбаваньнем строгага сьледзтва і пакараньня вінаватых.

«Robotnik» перадае што ў аўторак адбыўся бунт арыштантаў у вастрозе ў Самборы. Места зрабілася арэнаю крывавых спатычак і бітваў. Арыштанты пасьля «перамогі» над вастрожнаю вартаю кінуліся на сьпяшаўшае на падмогу варце войска. Падчас стрэлаў, даных да арыштантаў, некалькі з іх ранена, а адзін забіты. Войска кардонам абкружыла вастрог. Уночы ўсё супакоілася. Аднак-жа на другі дзень каля палудня бунт аднавіўся з новай сілаю. Прычынай бунту было тое, што арыштантаў дрэнна кармілі.

### За граніцай.

У **Нямеччыне** прэзыдэнт рэспублікі распараджэньнем ад 21 гэтага кастрычніка назначыў новыя выбары ў рэйхстаг на 7 сьнежня.

Сэньёрэн-конвэнт **прускага** сойму адтрымаў паведамленьне, што ў дзень выбараў у рэйхстаг, г. знач. у нядзелю 7 сьнежня сёлетн. году павінны адбыцца таксама выбары ў прускі сойм.

**Нямецкі** ўрад зьвярнуўся да нямецкага народу з адозваю з прычыны назначэньня новых выбараў. Гаворыцца аб непрацаздольнасьці апошняга рэйхстагу дзеля значнага ліку крайніх элемэнтаў на правым і

---

ЯЗЭП МАСКОФФ.

# У Горнай Дамброве.

Сцэнічны абразок у адным акце.

*Пераклад з польскага.*

*(Глядзі № 37 „Грам. Голасу“).*

**Дачка.** Але-ж, татка... што пан вінаваты...

**Шахцёр.** Давай страву! (*хапае сам гаршчок з печкі*). Глянь, пане!.. Сабакі ня локчуць гэтакае жратвы, а мы гэтую жыжу хаваем, як скарб, — не даядаем, каб надаўжэй засталося... вось!.. Але цяпер нам ужо непатрэбна сабачая страва... я заўтра йду ў шахту,— Юлька таксама. (*Кідае гаршчок на зямлю пад ногі Штыгара*).

**Дачка.** Хай пан не дае веры... я не пайду... я не пайду...

**Шахцёр.** Пайдзеш... я цябе не аддам пад салдацкія нагайкі.

**Штыгар.** Можаце бараніцца... маеце каменьне... кідайце...

**Шахцёр.** На каго? на іх? Дык-жа гэта такія самыя людзі, як мы, толькі, што іх апранулі ў салдацкія шынэлі і казалі ў іншых людзей страляць. Я-ж сам быў салдатам... шэсьць гадоў... дык і мне магло здарыцца, што загадалі-б страляць у другіх людзей. (*Праз момэнт*). А пан? кінуў-бы камень?

**Штыгар.** Я... я кажу, каб... вы...

**Шахцёр.** А што? каб мы?... заўсёды хто іншы, а ня вы.

**Штыгар** (*горача*). Пётра! Пётра! як вас пераканаць — якія словы знайсьці, каб даказаць, што мы толькі вашага дабра хочам. Падумай, Пётра!... што нам з гэтага! якая для нас з гэтага карысьць? Дык-жа мы маладыя — дык-жа ляпей нам было-б гуляць, сьмяяцца, а мы стараемся, каб вам было добра, каб паправіць варункі вашага жыцьця, каб узмацаваць вас гэтак, каб вы маглі дабіцца справядлівага куска хлеба за вашу цяжкую працу.

**Шахцёр.** Нічога з гэтага ня выйдзе... адны людзі жывуць дзеля таго, каб наядацца да сытасьці, іншыя — каб мёрці галоднымі.

**Штыгар.** Дык-жа не! гэта няпраўда. Гэта ня так... гэта злыя людзі дзеля свае карысьці выдумалі гэткі разьдзел. І мы вось хочам гэта растлумачыць. Чаму вы нам ня верыце?

**Шахцёр.** Дык я пану скажу папросту. Каб верыць, трэба ня слоў, але дзела...

**Штыгар** (*як рэха*). Але дзела... (*Чутно шум, гоман, яньчарскія званочкі*).

**Дачка** (*бяжыць да вакна*). Салдаты!

**Шахцёр** (*гасіць сьвечку*). Юлька! зачыні вакно... (*Сам зачыняе вакно*). Чаго вы сюды ходзіце? Сягоньня прыехалі з гораду жандары, каб прасачыць вас, ці вы не згаварыліся з намі... Сягоньня будуць хадзіць за вамі... (*Праз вакно відаць бліск вогнішча*).

**Дачка.** Распальваюць агні. Татка, тут пры дарозе частка іх будзе начаваць.

**Маці** (*прабудзіўшыся*). О, Божухна! гарыць!..

**Дачка** (*бяжыць ад вакна*). Не, мамка... гэта салдаты разлажылі агні.

**Маці.** О! салдаты! гэтак у горадзе... ішлі... але... (*засынае*).

(*Маўчанка*)

**Шахцёр** (*шэптам*). Як-жа ж вы цяпер выйдзеце?

**Штыгар.** Ну... неяк прабяруся...

**Шахцёр.** Ня ўдасца...

**Дачка.** Відаць, як удзень. Адсюль іх відаць... гляньце... во! мігцяць, як нячыстая сіла... (*крэсьціцца*). Маці Прачыстая! вывядзі ты іх адсюль сваей моцай...

(*Маўчанка. Чутно шум і казацкі гоман, іржаньне коняў, яньчарскія званкі*).

**Шахцёр** (*які прыслухоўваўся, раптам спалоханы піхае Штыгара ў кут*). Патруль!

(*У той момэнт вакно адчыняецца з гэткай сілай, што шкло разьбіваецца і ў вакне зьяўляецца Капітан жандароў у шынэлі і глядзіць па хаце. Пасьля выймае сярнічкі, запальвае адну і глядзіць на сцэну*).

**Капітан** (*зварочваючыся да сваіх жаўнераў*). Пожалуйста... за мной! (*стукае ў дзьверы*)

**Дачка.** Татка! не адчыняйце!

**Шахцёр** (*сумна*). Дурная... ты... ім не адчыняць!!! (*Адчыняе*).

ЗЬЯВА V.

Уваходзіць *Капітан* малады, прыгожы, ў доўгіх аблепленых гразёй ботах, за ім два жандары і чатыры казакі. Капітан падыходзіць да Штыгара. Казакі з ліхтарнямі.

**Капітан** (*бярэ ліхтарню і асьвятляе шапку і мундзер Штыгара*). А вот... да... вы господинъ

сыгналы мытных параходаў. Аказалася, што нарвэскія матросы паразьбівалі скрынкі з алькоголем, напапіваліся і зрабілі бунт. Амэрыканскія мытныя ўлады знайшлі нарвэскага-га капітана забарыкадаваўшымся ў сваёй каюце, дзе ён прабыў два дні з рэвальвэрам у руках, штомінюты чакаючы нападу п'яных матросаў.

### Старадаўнія сьцены Канстантынопаля.

Турэцкія ўлады замерваюцца зьнясьці старадаўнія канстантынопальскія сьцены. З гэтае прычыны афінскае „Таварыства звучэньня Візантыі" зьвярнулася ў Лігу Народаў з протэстам, паказваючы на тое, што гэты акт ня толькі зачапляе пачуцьцё грэцкага народу, але й непажаданы з пункту гледжаньня навукі, руйнуючы матар'ял, неабходны дзеля звучэньня розных пэрыядаў гісторыі Канстантынопаля і яго топографіі. Найболей выдатныя часьці гэтых сьценаў адносяцца да пэрыядаў панаваньня імпэратара Хвядоса, затым ужо да значна пазьнейшага панаваньня імпэратара Мануіла Комнэна.

### Што пагражае Нью-Іорку?

Высачэнныя дамы стоўпіліся на вузенькай паласе ў паўднёвай часьці Нью-Іорку. Пад'земная чугунка як дзень так ноч гудзе пад яго вуліцамі. Самаходы, трамваі, аўтобусы, чугункі яшчэ больш павялічваюць цяжар. Няраз ужо чуліся перасьцерагальныя галасы, даводзіўшыя, што зямля ня вытрымае цяжару места.

Нядаўна вядомы амэрыканскі прафэсар астраноміі і вышэйшай матэматыкі доктар Давід Тод прачытаў лекцыю, дзе вельмі горача прараказаў катастрофу. Больш, чым пэўна, што калі сваячасна ня будуць прыняты меры, дык грунт, на якім стаіць Нью-Іорк, можа праваліцца. Перасьцярогу гэту спачатку навет у кругох спэцыялістых прынялі з усьмешкамі, паціскаючы плячыма, але праф. Тод стаіць на сваім. У гутарцы з адным журналістым ён заявіў:

Дапушчэньне, што Нью-Іорк пабудаваны на надта моцным скалістым грунце, не адпавядае праўдзе. Скалы пакрысе рассыпаюцца і ў шмат якіх мясцох парабіліся ужо шчэліны. Геолёгічныя выведы паказалі, што глыбока пад Нью-Іоркам істнуе шырокая і доўгая лёха. Праф. Тод далей заяўляе, што за апошні час Нью-Іорк перажыў чатыры пад'земныя ўдары. Апошні з іх адбыўся ў 1895 г. Шмат якія старыя жыхары места яшчэ памятаюць яго.

Якія-ж разьмеры катастрофы, калі прараканьне праф. Тода збудзецца? Загінуць мільёны людзей. Вялізнае места, падобна да Новай Атлянтыды, затопіцца ў акіяне. Аднак-жа праф. Тод думае, што катастрофу можна ўхіліць. Ен прапануе ракапаць глыбокую шахту з мэтаю акуратна зьведаць грунт Нью-Іорку. Калі пад местам акажуцца небясьпечныя, ў выпадку абвалу, лёхі, дык іх трэба заліць цымэнтам і жалеза-бэтонам. Гэтым, як думае праф. Тод, небясьпека землетрасеньня была-б ухілена.

# У С.С.Р.Р.

### Справа аб „Антонаўскім цудзе".

У Камянец-Падольску суд вынес прыгавар па нашумеўшай справе аб „Антонаўскім цудзе". Цуд гэты складаўся з таго, што ў калодзежы зьяўляўся абраз Хрыста. Сьвяшчэньнік Бучка засуджаны на 1 год вастрогу. 17 сялян-паломнікаў засуджаны на 6 месяцаў.

### Неспакой у Харкаве.

Румынскія газэты перадрукоўваюць гэткую заяву адэскіх „Известий".

„Чаму рабочыя лічаць сябе ў праве перашкаджаць *совнаркому* вывозіць хлеб? Вышэйшыя інтарэсы III інтэрнацыяналу вымагаюць баяздольнае арміі і казна мусіць мець усе неабходныя кошты дзеля падрыхтоўкі сусьветнае рэвалюцыі. Патрэбныя грошы могуць быць дабыты толькі шляхам вывазу хлеба. Што датычыць няправільных запярэчваньняў, быццам насяленьне памірае з голаду, дык на гэта трэба адказаць, што камуністычная палітыка ня можа кіравацца сантымэнтальнасьцю. Нашыя чырвоныя войскі ўжылі толькі заслужаныя рэпрэсаліі, падавіўшы ў Харкаве спробу затрымаць транспарты хлеба, якія скіроўваліся ў Адэсу. Мы шкадуем аб загінуўшых у Харкаве народных камісарах і аб стратах чырвоных войскаў і трэбуем ад народу, каб ён стрымаўся ад паўтарэньня гэткіх контр-рэвалюцыйных дзеяньняў. У праціўным выпадку кара будзе яшчэ болей строгаю, чымся ў Харкаве".

### Мітынг быўш. абшарнікаў і сялян у Менску.

15-га кастрычніка ў Менску адбыўся беларускі мітынг, на якім былі быўшыя абшарнікі й сяляне. На мітынгу пастаноўлена: 1) зараз-жа спыніць усе рэквізыцыі хлеба і іншых харчавых прадуктаў савецкаю ўладаю; 2) каб было пазволена арганізаваць беларускую армію й міліцыю; 3) каб былі выпушчаны на волю ўсе арыштованыя ў сувязі з паўстаньнем у Беларусі. Мясцовыя ўлады, баючыся паўстаньня, пазволілі зрабіць мітынг і абяцалі гэтае трэбаваньне пасласлаць у Маскву.

---

# Навіны у тры радкі.

— Парыскія газэты пішуць, што на пахаваньні франц. пісьменьніка Анатоля Франса было больш як 200.000 асоб.

— Паводлуг пашыраных погаласак, амэрыканскае марское міністэрства разглядае проект скарыстаньня цэпэліна R. 3 для паштова-пасажырскае службы.

— У Парыжы на могілках Пэр-Ляпэз адбылася вялікая маніфэстацыя з прычыны 75-х угодкаў сьмерці композытара Фрыдрыха Шопэна.

— Імпэратрыца ўдава Марыя Фёдараўна адмовілася прызнаць у пляменьніку сваім Кірыле „ўсерасейскага цара".

— У **Афінах** цераз фальшывую трывогу паўстала паніка сярод публікі, падчас якое загінула 27 дзяцей, а 50 чал. дарослых памята.

— Раніцай 21.Х французскія аддзелы эвакуавалі окупаваныя абшары ў Нямеччыне — Карлсруэ і Мангэйм.

— З Лёндану тэлеграфуюць што ў 1926 г. будзе паслана новая экспэдыцыя на Эвэрэст.

— ЦиК С. С. Р. Р. пастанавіў паўднёва ўсходнюю обласьць называць у далейшым Паўночна-Каўкаскаю обласьцю.

— У Уладзімеры 10.Х выпаў першы сьнег. Стаяць лёгкія маразы.

— У Петраградзе з прычыны моцнае шкарлятыны зачынены шмат якія школы.

— У Італіі цераз самаходную катастрофу загінуў трагічна лятун Анчілётто, вядомы ў Польшчы па пералёту Рым—Варшава.

— У Літве за бягучы год будзе распарцэлёвана больш-менш каля 150.000 гэктараў абшарніцкае зямлі.

— „Rzeczpospolita" зьмяшчае паведамленьне „Росты", што ніякіх паўстаньняў у Савецкай Беларусі ня было.

— У Гішпаніі ад моцных дажджоў зрабілася паводка ў ваколіцах Грэнады, адна частка якое заліта вадою.

---

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Выхад з Часов. Беларускае Рады.** Прэзэс Беларускага Грамадзянскага Сабраньня гр. С. Валэйша выступіў з ліку сяброў Часовае Беларускае Рады.

= **Лекцыі маршалка Пілсудскага.** 27, 28 і 29 кастрычніка ў Вялікім тэатры адбудзецца цыкль лекцыяў маршалка Язэпа Пілсудскага на тэму „Уплыў Захаду і Усходу на паўстаньне 1863 г." Пачатак а 7 гадз. ўвечары. Цэны білетаў, якія можна набываць у „Лютні", пачынаючы ад 75 грош. Каса адчынена ад 11 — 1 і 3 — 9.

= **Вулічны збор на беларускі прытулак**. У аўторак 28-га кастрычніка адбудзецца ў Вільні вулічны збор ахвяраў на карысьць прытулку для беларускіх сірот і дзяцей бедных бацькоў.

= **Звальненьне архімандрыта Піліпа**. Загадам архіепіскапа Хвядоса на аснове рапарту рэктара праваслаўнае духоўнае сэмінарыі, за адпраўленьне службы 14-га кастрычніка (на стары стыль 1-га — дзень Пакроваў) ізноў звольнены з пасады настаяцеля Сьв.-Траецкага манастыра архімандрыт Піліп (Марозаў). Замест яго на гэту пасаду назначаны рэктар сэмінарыі епіскап Антоні.

Дзе гэта відана, каб хто-бы там ні было прасьледаваўся за тое толькі, што ён моліцца!

= **Новы законапроект аб выбарах гарадзкіх самаўрадаў.** 31-га кастрычніка назначана конфэрэнцыя прафэсароў унівэрсытэту на чале з быўшым рэктарам Парчэўскім, якія выкажуцца аб новых законапроекце выбараў у органы гарадзкіх самаўрадаў.

= **Магістрат** апрацоўвае новы парадак часу адчыняньня і зачыняньня булачных.

= **Аддзел соцыяльнага абесьпячэньня** ў магістраце пастанавіў выдаць 10.375 злотых на патрэбы шпіталяў і прытулкаў і 1.200 злотых для сталоўні бедных інтэлігэнтаў.

= **Суд**. Апэляцыйны суд у Вільні разглядаў справу, якая пару гадоў назад дужа зацікавіла тутэйшае грамадзянства.

У чэрвені 1919 г. ваенная жандармэрыя, якая тады была органам адміністрацыйнае ўлады, пачала энэргічна шукаць у насяленьня астаўшагася пасьля бальшавікоў аружжа і амуніцыі. Вахмістр Выганоўскі разам з інш. двама жандарамі быў дэлегованы ў вёску Валакумпе пад Вільняй. Ім было загадана зрабіць вобыскі і праверыць, ці ў жыхароў вёскі няма рэчаў з разграбленага суседняга маёнтку Александровіча. Пару дзён назад падпалены маёнтак Александровіча згарэў, а інвэнтар быў разграблены ваколічным насяленьнем.

Жандары, прасачыўшы ваколіцу, арыштавалі нейкага Руневіча, каранага ўжо за кражы, завялі яго ў лес і расстралялі. Аб гэтым хутка даведаліся і справа апынулася ў судзе. Разам з жандарамі быў абвінавачаны й земляўласьнік Александровіч за тое, што намовіў жандароў забіць Руневіча.

Віленскі Акружны Суд засудзіў вахм. Выганоўскага на 6 гад., жанд. Булькевіча на 4 гады, Александровіча на 5 гадоў вастрогу, а жандара Ксенжыка на 3 мес. арышту.

Апэляцыйны Суд даў лягчэйшы прысуд: Выганоўскага і Булькевіча засудзілі на 2 г. 8 м вастрогу, Ксенжыка на 3 мес. арышту, а Александровіча апраўдалі.

Абвінавачаных баранілі адвакаты: Шышкоўскі, Нядзельскі, Новадворскі, Гронцкі, Андрэеў і Драц.

---

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Не адмоўцеся надрукаваць гэтых колькі слоў:

Новая устава аб языку урадаваньня дае нам паважную магчымасьць карыстаньня з роднай беларускай мовы у судох Ведама, ўсе, каму дарагі наш нацыянальны адраджэнскі рух, маем сьвятую павіннасьць правесьці гэныя магчымасьці ў жыцьцё. Але ось тут і напатыкаем найвялікшую труднасьць: адсутнасьць судовай беларускай тэрміналёгіі.

Шануючы і любячы сваю мову, ня можам выстаўляць яе на сьмехату, а гэта будзе бязумоўна так, калі кожны захоча павэдле свайго бачаньня тлумачыць тэрміны. Справа палячая — з вырашэньнем адцягаць нельга.

Заметкі газэтныя яшчэ пару месяцаў назад аб быццам пачатай працы ў гэтым кірунку — відаць толькі пажаданьні.

Я хацеў бы падаць на страніцах прэсы гэткі праект: усе нашы юрыдычныя і філёлёгічныя сілы, калі можна, згуртаваўшыся па некалькі чалавек, павінны нягайна прыступіць да тлумачэньня найболей патрэбнай тэрміналёгіі з „Ustaw postępowania Cywilnego i Karnego". У самым бзізкім часе склікаць зьезд, на якім пры вучасьці навуковых сіл і судзебнай магістратуры, (яна бязумоўна таксама мусіць быць зацікаўленаю у гэтай працы), зацьвярдзіць пэўную тэрміналёгію.

Прашу другія газэты перадрукаваць гэтае пісьмо. *).

*П. Аляксюк.*

Наваградак 15-Х—1924 г.

*) **Ад Рэдакцыі:** Мы не перадрукоўваем гэтага пісьма вядомага беларускага дзеяча, які цяпер працуе, як адвакат, з „Сял. Праўды", дзе яно зьявілася раней (22-Х), а зьмяшчаем у той форме, як яно прыслана да нас поштаю.

Цікава, што, друкуючы пісьмо гр. П. Аляксюка, „Сял. Праўда" не паставіла пад ім яго подпісу, але ўсё-ж такі сваю ўвагу пачала гэтак:

„Мы адтрымалі ад аднаго з беларускіх дзеячоў пісьмо ў Рэдакцыю... і г. д."

На гэты раз, дык і для „С. П." п. Аляксюк усё-ж такі *беларускі дзеяч*, а хто-ж гэта вельмі нядаўна сваім прывычным тонам сьпяваў на шпальтах „С. П." пра гэтак зван. „аляксюкоўшчыну".

Такая ўжо падвойная этыка ў нікому *невядомых* дзеячоў, падобных да п. Рэдактара „Сялянскай Праўды". Лаяць Аляксюка—гэта справа так сабе будзенная, а надрукаваць яго пісьмо (хоць і бяз подпісу) — гэта ўжо... на сьвята застаецца.

Як гэта ні дзіўна, а ў адным мы солідарны з „Сял. Пр." Яна піша, што думку п. А. „горача падтрымлівае..."

Але! думка вельмі культурная і мы яе... таксама падтрымліваем.

Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей.** Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф. № 203.